


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

25 мая 2001 года

№ 21 (318)
Выходзіць па пятніцах

TV плюс

## Навіны рэгіёна

### Ізноў абласны кірмаш

**МАЛАДЗЕЧНА.** Распараджэннем Мінскага аблвыканкома запланавана правесці ў горадзе абласны кірмаш. Кірмаш пройдзе 23 чэрвеня.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Новыя каналы

**МЯДЗЕЛ.** Змены адбыліся на 34-м дэцыметровым тэлевізійным канале. Дагэтуль рэнтранслятар, што месціцца пад Мядзелам, трансляваў на ім канал «Культура». Цяпер эфір дзеліцца з Віцебскай абласной тэлестудыяй «6ТВК», якая збольшага паказвае праграмы расійскага канала «СТС» (ён афішуе сябе як «першы забаўляльны канал»).

Мяркуецца, што зроблена гэта па просьбах настаўчан, каб яны маглі глядзець перадачы свайго абласнога тэлебачання. У выхадныя дні ідуць толькі «6ТВК» і «СТС», а ў будні дні гэтыя каналы ідуць раніцой і ўвечары, а ўдзень – «Культура». Гавораць, што з добрай антэнай можна глядзець каналы і пад Смаргонню.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Камерцыйныя аўтобусныя маршруты ў Смаргоні

**СМАРГОНЬ.** Па выхадных кошт праезду ў аўтобусах узрастае ў 2 разы – і тут з'явіліся "камерцыйныя" маршруты.

35–40 мільёнаў выручкі штомесяц аўтапарку нестае для пакрыцця выдаткаў. Гродзенскае абласное ўпраўленне аўтатранспарту з запланаваных 86 мільёнаў рублёў на год выдалі 20. А раённы бюджэт замест 20 мільёнаў штомесяц выдаткоўвае па 8–9.

**Павел МАКЛЮК.**

### Фестываль адкрые Лукашэнка

**МАЛАДЗЕЧНА.** Адкрываць фестываль беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне будзе **А. Лукашэнка**. Такую інфармацыю прывез у горад намеснік старшыні Мінаблвыканкома **Віталь Дражын**.

Па дарозе ў Маладзечна А. Лукашэнка, як мяркуецца, заедзе ў Радашковічы. А ў горадзе яму раскажуць і пакажуць ход будаўніцтва сярэдняй школы ў шостым мікраёне і гарадскога Дома культуры. Магчыма, госць наведае месца, дзе будзе стаяць помнік Агінскаму.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Рыцарскі фэст – для гледачоў

**МЯДЗЕЛ.** Для правядзення 9–10 чэрвеня першага нацыянальнага рыцарскага турніру «Меч Гедыміна» на паўвостраве Замак збіраюцца пабудаваць Рыцарскае Рысталішча з трыбунамі прыкладна на 1000 месцаў.

А ў цэнтры Мядзела мяркуецца ўстанавіць вялікі тэлеэкран, які будзе працаваць у рэжыме рэгулярных тэлеспраздач. Дарэчы, генеральным спонсарам турніру стала карпарацыя «Konica».

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Адмена прыгарадных цягнікоў

**25 мая**
адпраўленнем у Мінск 14.35, прыбыццём з Мінска 13.49

**29 мая**
Прыгарадны цягнік Полацк-Крулеўшчына-Паставы адпраўленнем з Полацка ў 8-48 і прыбыццём у Крулеўшчыну ў 10-55 ідзе да станцыі Варапаева і назад.

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 26 мая

**Мінск**
3 – 8°С (уначы)
7 – 14°С (удзень)



**Вільня**
6°С (уначы)
15°С (удзень)



Нядзеля, 27 мая

**Мінск**
3 – 6°С (уначы)
14 – 15°С (удзень)



**Вільня**
6°С (уначы)
12°С (удзень)



# Не толькі вальс



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**На галоўнай плошчы Вілейкі танцуе харэаграфічны калектыў Маладзечанскага раённага метадычнага цэнтра «Акварэль». На пярэднім плане Лена Сідарава.**

**Дваццаты Мінскі абласны фестываль духавой музыкі "Майскі вальс" прайшоў 19–20 мая ў Вілейцы.**

Фестываль пачаўся суботнім вечарам на летняй танцпляцоўцы гарадскога парку. Адкрылі яго самадзейныя артысты з Жодзіна і вядомы ў рэгіёне калектыў пад кіраўніцтвам **Фёдара Гура**.

А назаўтра 18 духавых аркестраў і 2 танцавальныя калектывы на галоўнай плошчы горада ладзілі гала-канцэрт. Музыканты з Маладзечна, Валожына, Вілейкі, іншых гарадоў і раёнаў сталі цэнтрам увагі віляйчан. Дырыжыраваў зводным аркестрам заслужаны артыст **Барыс Чудакоў**.

Удзельнікі фестывалю былі адзначаныя каштоўнымі прызамі ад аддзела па рабоце з моладдзю аблвыканкома. Кошт прызавога фонду – 200 тысяч рублёў.

Можна наракаць на ўдзельнікаў фестывалю і арганізатараў за тое, што не вытрымалі чысціні задумкі – на свяце гучаў не толькі вальс, але, з іншага боку, напоўненасць фестывальных дзён музыкай іншых жанраў, танцамі, песнямі дадала дадатковыя і яркія фарбы святу ў непагодныя, увогуле, дні выходныя.

**Б. АРЫСАЎ.**

■ ПАСАДЫ

## Кавалёў пераедзе ў Гродна

**СМАРГОНЬ. Старшыня райвыканкома Мікалай Кавалёў з панядзелка мусіць выйсці на работу ў Гродзенскі абласны камітэт Дзяржкантролю.**

Хутчэй за ўсё, ён яго і ўзначаліць. Такім чынам, спраўдзіліся даўнія чуткі аб павышэнні па службовай лесвіцы Мікалая Кавалёва. Новы старшыня Смаргонскага райвыканкома пакуль не прызначаны. Яго абавязкі будзе выконваць першы намеснік **Станіслаў Юргель**.

Наўрад ці хто з мясцовых кадраў будзе прызначаны абласным кіраўніцтвам на месца старшыні. Хутчэй за ўсё, гэта будзе які-небудзь начальнік сельгасупраўлення аднаго з найбольш моцных па паказчыках у сельскай гаспадарцы раёнаў.

**Заканчэнне на 2-й стар.**



Фота з архіва «РГ».

**Яшчэ пакуль старшыня Смаргонскага райвыканкома Мікалай Кавалёў.**

**Экспрэс-апытанне**

# Вам патрэбны гарадскі кірмаш?



**Людміла Кузняцова, прадавец:**
– Мне, напэўна, не. Грошы толькі збіраюць з людзей, у тым ліку, і тых, што працуюць на рынках. Лічу, што гораду кірмаш карысці не прынясе. Іншая справа, каб цэны ніжэйшыя былі. А то летась і цэны, і асартымент былі такія, як на рынках.



**Косця Лебедзеў, васьмікласнік СШ №6:**
– Кірмаш патрэбны. Мяркую, што гэта карысна для нашага горада і вобласці, бо на кірмашы гандлюе шмат прадпрыемстваў. Галоўнае толькі, каб надвор'е было добрае. Калі ў гэты час буду ў горадзе, то наведаю кірмаш.



**Валерый Цырук, рабочы:**
– Я за правядзенне. Быў летась, і дождж не перашкодзіў. А грошы пастаянна бяруцца з рабочай кішэні. Дык няхай лепш пойдуць на кірмаш, чым на нешта іншае.



**Міхаіл Калач, прадавец:**
– Я абавязкова пайду, калі кірмаш адбудзецца. Летась хадзіў і вярнуўся з пакупкамі. Лічу, што на кірмашы больш разнастайны асартымент тавараў, чым на рынках.



**Марыя Суднік, пенсіянерка:**
– Мінулы раз я туды не хадзіла, таму не ведаю. Калі кірмаш праводзяць, то гэта некаму патрэбна.



**Эдуард Грабоўскі, пенсіянер:**
– Кірмашы патрэбныя. Там ёсць што купіць. Калі б толькі грошы былі.

**Фотаапытанне падрыхтавалі Юрый КАРПІЦКІ і Яўген СТЭЛЬМАХ (фота).**

# Хто будзе рабіць экспертызу абутку?

**МАЛАДЗЕЧНА. Хутка ў горадзе перастануць рабіць экспертызу абутку. Для гэтага спажыўцам, як і раней, трэба будзе ездзіць у Мінск.**

У Маладзечне існуе пастаянная патрэба ў такой экспертызе. Штотыдзень у арганізацыю па абароне спажыўцоў жыхары прыносяць сапсаваны абутак, які нядаўна купілі на рынку ці ў магазінах горада. Тавар, у асноўным, імпартнай вытворчасці. Спажыўцы патрабуюць за няякасную, на іх погляд, прадукцыю грошы. З чым, зразумела, не заўсёды згодныя прадаўцы. Для вырашэння спрэчак і патрэбнае заключэнне эксперта аб наяўнасці або адсутнасці вытворчага браку.

Старшыня арганізацыі **Уладзімір Клешч** накіроўваў спажыўцоў рабіць экспертызу ў Беларускай гандлёва-прамысловай Палаце (БГПП). У Маладзечне ёсць яе філіял. Лагічна было праводзіць экспертызы тут. Філіял накіраваў свайго эксперта на вучобу, і яна атрымала сертыфікат на падобныя работы.

– Экспертызы рабілі ў Маладзечне яшчэ летась. Але для філіяла гэта нявыгадна эканамічна, – гаворыць дырэктар **Валерый Машталер**.

Да таго ж, эксперт звольнілася, і справу закрылі. І рабіць экспертызы філіял не павінен. Дырэктар паказвае пастанову Савета Міністраў ад 26.04.96 г., дзе ў спісе арганізацый, якія маюць права правяраць якасць тавараў, няма БГПП.

Затое ёсць Цэнтр стандартызацыі і метралогіі, які зазначаны ў спісе. А ў Палаце накіраванні з Маладзечна бяруць з неахвотай, бо лічаць, што ў горадзе можа абысціся сваімі сіламі.

З падачы Уладзіміра Кляшча гарвыканком у сваім рашэнні ўказаў кіраўнікам дзвюх гэтых арганізацый на працягу II квартала наладзіць экспертызу абутку па накіраванні арганізацыі па абароне спажыўцоў.

Маладзечанскі Цэнтр стандартызацыі і метралогіі даслаў адказ на імя старшыні гарвыканкома **Мікалая Чурсіна**. Там зазначана, што Цэнтр можа рабіць экспертызы толькі па харчовай і сельскагаспадарчай прадукцыі. І даецца спасылка на пастанову Савета Міністраў ад 13.11. 98 г.: "камітэту Дзяржстандарту РБ даручана праводзіць у падведамасных лабараторыях, З УЛІКАМ ІХ МАГЧЫМАСЦЯЎ (выдзелена рэд.), экспертызу тавараў (работ, паслуг) на адпаведнасць іх патрабаванням якасці і бяспекі".

Таму рашэнне выканкома Цэнтр выканаць не можа з-за адсутнасці абсталявання.

Маладзечанскі філіял БГПП свой адказ яшчэ не накіраваў, але, як сказаў дырэктар, хутчэй за ўсё, ён будзе адмоўны.

**НАШ КАМЕНТЫРЫЙ.** На мой погляд, абедзве арганізацыі з майстэрствам скарысталі агрэхі ў заканадаўстве. Сапраўды, філіял БГПП ніяк не прымусіш рабіць экспертызы: у іх ёсць свая падстава не займацца гэтым. Хаця раней рабілі падобнае. Дырэктар гаворыць, што ў мінулых пастановах Савета Міністраў БГПП была, а ў апошні на яе "забыліся".


Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.
**Гэтаму абутку экспертыза не дапаможа.**

У Цэнтра стандартызацыі і метралогіі іншая прычына. Там "зачапіліся" за словы "з улікам іх магчымасцяў" з апошняй пастановы Савета Міністраў. Яшчэ прасцей, няма магчымасцяў – няма і размовы.

А спажыўцам трэба ў рабочы час ехаць у Мінск, на што "вылятае" цэлы дзень. І ніхто не вінаваты.

Самае смешнае. Жанчына, што правярала абутак, калі працавала ў філіяле БГПП, гаворыць: экспертыза робіцца візуальна.

Можна спрачацца пра якасць такіх эксперыментаў, але эксперт гаворыць, што іх месяц вучылі, якія бываюць дэфекты. Пэўны досвед жанчына ў гэтай справе набыла. І на падставе падобных экспертыз вырашаліся спрэчкі паміж прадаўцамі і спажыўцамі.

Цяпер эксперт працуе ў іншым месцы. У горадзе іншага такога спецыяліста няма. Каб зрабіць экспертызу пары абутку, патрэбная гадзіна. Кошт працэдуры каля 4–5 тысяч. Эксперту ідзе частка.

Што замінае Цэнтру стандартызацыі і метралогіі вывучыць свайго спецыяліста, невядома. І праблему б знялі. Не гублялі б спажыўцы столькі часу марна, ды і вынікі экспертызы хутчэй былі б (у Мінску "прыёмны" дзень быў толькі па серадах).

А пры такім попыце на паслугу Цэнтр, магчыма, і зарабіў бы нешта.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 17 мая | 24 мая |
|---|---|---|
| Долар | 1345,00 руб. | **1345,00** руб. |
| Нямецкая марка | 607,95 руб. | **590,55** руб. |
| Літ | 336,22 руб. | **336,16** руб. |
| Расійскі рубель | 46,35 руб. | **46,26** руб. |
| Злоты | 336,71 руб. | **335,70** руб. |
| ЕЎРА | 1189,05 руб. | **1155,02** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1370 – 1390 руб. | **1380 – 1400** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 16.05 | 23.05 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2180 | 2280 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 7620 | 7570 |
| Сасіскі, 1 кг | 2450 | 2450 |
| Селядзец, 1 кг | 1550 | 1550 |
| Рыс, 1 кг | 520 | 520 |
| Грэчка, 1 кг | 460 | 460 |
| Цукар, 1 кг | 580 | 580 |
| Алей, 1 л | 770 | 820 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 680 | 680 |
| Маянэз, 200 г | 260 | 260 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1500 | 1500 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 430 | 430 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 370 | 370 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 320 | 400 |
| Капуста, 1 кг | 400 | 800 |
| Лімоны, 1 кг | 1400 | 1200 |
| Апельсіны, 1 кг | 1100 | 1100 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1200 | 1000 |
| Масла, 1 кг | 2000 | 2200 |
| Тварог, 1 кг | 900 | 900 |
| Малако, 1,5 л | 400 | 350 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 900 | 900 |
| Бульба, вялікае вядро | 700 | 500 |
| Морква, 1 кг | 700 | 1100 |
| Яблыкі, 1 кг | 700 | 500 |
| Цыбуля зялёная, 1 пучок | 200 | 150 |
| Радыс, 1 пучок | 200 | 250 |
| Кроп, 1 пучок | 100 | 100 |

# Буслы і спіртагарэлачны завод

**МАЛАДЗЕЧНА. На тэрыторыю спіртагарэлачнага завода, што ў Маліноўшчыне, прыляцелі буслы. Гняздо яны ўжо абжылі. Хутка будзе патомства. Пакуль бусліха выседжвала яйкі, у дзень нашага прыезду яе "муж" паляцеў у камандзіроўку.**

Прадукцыя завода абвяргае неафіцыйны тытул яе сярод спажыўцоў як нізкаякаснай гарэлкі. Нядаўні Гран-пры і россып медалёў на міжнароднай выстаўцы прыцягнулі патэнцыяльных кліентаў. Дэманстрацыйная зала на заводзе не прастойвае.

Прадпрыемства павялічвае аб'ёмы вытворчасці, сярод якой не толькі спіртное, але і мінеральная вада.

**Юрый КАРПІЦКІ.**


Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.
**Злева – вытворчы і адміністрацыйны карпусы Маліноўшчынскага спіртагарэлачнага завода. Штучнае возера выкарыстоўваецца ў тэхналагічным працэсе.**

## Прадпрымальнікі наводзяць парадак

**МАЛАДЗЕЧНА. За кошт прадпрымальнікаў на тэрыторыі горада ўстаноўлена 16 новых гандлёвых кіёскаў, рэканструяваныя 80 пунктаў і гандлёвыя рады. З'явіліся новыя павільёны на 12 аўтобусных прыпынках.**

Дэпутаты гарсавета на сесіі даручылі кіраўнікам прадпрыемстваў распрацаваць мерапрыемствы па добраўпарадкаванні і пастаянным абслугоўванні прылеглых тэрыторый.

Рэалізацыя – пачынаючы з наступнага года.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## «Гран-пры» з Ялты

**МЯДЗЕЛ. Прадукцыя УП «Ілаўскае» вызначылася на міжнародным конкурсе пладова-ягадных вінаў і напояў «Ялта-2001».**

Мядзельчане прывезлі адтуль серабро за віно «Каханай жанчыне», два дыпломы і «Гран–пры» сярод пладовых вінаў. Заслужыла яго віно «2000 год».

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Гарачая вада будзе 4 чэрвеня

**МАЛАДЗЕЧНА. На 4 чэрвеня запланаванае падключэнне гарачай вады ў кватэры гараджан.**

Па сведчанні намесніка дырэктара электрасетак **Леаніда Кузняцова**, гарачую ваду могуць падключыць на пару дзён раней. Гэта ў выпадку, калі своечасова адрамантуюць цеплатрасы.

Дамы ў раёне магазіна "Дзіцячы свет" пазбавіліся гарачай вады мінімум да 1 ліпеня. Гэта – тэрмін заканчэння работ па Вялікім Гасцінцы.

Пра запас паліва для кацельняў горада мы не дазналіся. Адказныя работнікі сцвярджаюць, што гэта "ваенная тайна".

Нагадаю, 18 мая на другім Усебеларускім народным сходзе **Аляксандр Лукашэнка** запатрабаваў ад камунальных службаў, каб сёлета перыяд адключэння гарачай вады не перавышаў 10–14 дзён: "Гэта мае жорсткае патрабаванне да ўсіх кіраўнікоў. Шукайце грошы і адключайце ваду для таго, каб водаправод адрамантаваць, максімум на 10 дзён, ну, максімум на 14 дзён. І хопіць падманваць народ".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Новае ва ўліку і кантролі для юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў

У мэтах упарадкавання уліку праверак (рэвізій), якія праводзяцца ўпаўнаважанамі органамі, Пастановай Савета Міністарў РБ ад 22 лютага 2001 года №248 зацверджаныя Правілы вядзення юрыдычнымі асобамі і індывідуальнымі прадпрымальнікамі кнігі ўліку праверак (рэвізій).

У выкананне вышэйназванай пастановы юрыдычныя асобы, індывідуальныя прадпрымальнікі абавязаныя аформіць кнігу ўліку праверак (рэвізій) на працягу аднаго месяца з даты іх дзяржаўнай рэгістрацыі, а юрыдычная асоба, індывідуальны прадпрымальнік, што ажыццяўляюць сваю дзейнасць, на працягу двух месяцаў з даты ўступлення ў сілу гэтай пастановы.

Кніга ўліку праверак (рэвізій) афармляецца дадаткова юрыдычнай асобай, індывідуальным прадпрымальнікам на кожнае адасобленае падраздзяленне па-за месцам знаходжання юрыдычнай асобы або месца жыхарства індывідуальнага прадпрымальніка.

**Мінскі абласны тэрытарыяльны камітэт прадпрымальніцтва і інвестыцый.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Вывучэнне сітуацыі ў масках

**АСТРАВЕЦ. Два дні аператыўнікі з першага ўпраўлення камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі МУС РБ, мінскага спецыяльнага атрада хуткага рэагавання, смаргонскага міжрайаддзела па арганізаванай злачыннасці і карупцыі і іх астравецкія калегі праводзілі спецыяльную аперацыю. Мэта яе заключалася ў раскрыцці злачынстваў, выяўленні крымінальных асобаў, а таксама вывучэнні сітуацыі ў памежнай зоне.**

Аператыўнікі праверылі більярдную залу ў кінатэатры "Кастрычнік", дзе сталі сведкамі распіцця гарэлкі супрацоўнікамі ашмянскай мытні. Адзін з іх спрабаваў выказаць незадаволенасць тым, што АХ-Раўцы былі ў масках. У хуткім часе яго даставілі ў дзяжурную часць Астравецкага РАУС, дзе склалі пратакол за распіццё віна ў грамадскім месцы.

Наступнае было кафэ "Вайга". У той вечар сюды пад'ехалі трое юнакоў, вадзіцель быў на добрым падпітку. Яшчэ адзін малады хлопец быў затрыманы, бо пры сабе меў нож.

Падчас правядзення рэйду ў памежнай зоне на станцыі Гудагай у жыхара Літвы К. знайшлі 80 грамаў амфетаміну і 100 таблетак "Экстазі". Гэтыя наркатычныя сродкі ён прывез на Аставеччыну для продажу. Кошт іх 1200 долараў ЗША. Наркакур'еру праваахоўныя органы інкрымінуюць кантрабанду і захоўванне наркатычных рэчываў.

Складзеныя пратаколы і за іншыя правапарушэнні. У бліжэйшым часе падобныя рэйды стануць рэгулярныя.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Сын забіў бацьку

МЯДЗЕЛ. У вёсцы Гарадзішча Княгінінскага пассавета малады беспрацоўны мужчына ў стане алкагольнага ап'янення задушыў дротам свайго бацьку-пенсіянера.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Матэрыялы падрыхтаваныя пры ўдзеле Маладзечанскага аддзялення Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Беларускі Хельсінкскі камітэт».**

## Долар у кішэні: ніз-зя!

**МАЛАДЗЕЧНА. 15 красавіка Мікалай Стрыжэўскі праводзіў сваю цешчу на электрычку. Затым яны разам з маці і айчымам пайшлі дахаты. Каля камерцыйнага кіёска Мікалай затрымаўся, каб купіць сыну прысмакі, а маці з айчымам пайшлі наперад.**

Каля кіеска ён дастаў з кішэні 5 тысяч рублеў. Разам з імі ляжалі і 20 даляраў ЗША (купіў напярэдадні ў абменніку філіяла «Беларусбанка»). Паколькі ў кіеску было шмат людзей, то рушыў да наступнага. Там да яго падышлі два супрацоўнікі міліцыі і запатрабавалі прайсці з імі. Прозвішчы свае яны не назвалі (затрыманы даведаўся іх толькі з копіі акта канфіскацыі сваіх грошай), прычыну затрымання не патлумачылі.

Па дарозе ў адзяленне Стрыжэўскі паспрабаваў высветліць прычыну затрымання. На што пачуў: ты хацеў купіць піва за даляры. Піва купляць ён зусім не збіраўся, тым болей за даляры. Пры тым быў цвярозы, чаго, відаць, не чакалі міліцыянты.

Супрацоўнікі міліцыі склалі пратакол, у якім было запісана, што затрыманы неаднаразова на прывакзальнай плошчы чапляўся да грамадзянаў і хацеў прадаць 10 даляраў. Стрыжэўскі пратакол не падпісаў.

2 мая на судовае паседжанне ні сведкі з боку міліцыі, ні самі міліцыянты не з' явіліся. На наступным слуханні справы 10 мая, дзе сведкі і міліцыя ўжо прысутнічалі, суддзя **Юрэвіч** прызнала М. Стрыжэўскага невінаватым і абавязала вярнуць канфіскаваныя ў яго грошы.

**Эдвард БАЛАНЧУК.**

## Шаноўныя прадпрымальнікі!

**Маладзечанскае адзяленне Рэспубліканскага грамадскага аб'ядняня «Беларускі Хельсінкскі Камітэт» дапамагае маламаёмным грамадзянам ў атрыманні юрыдычнай дапамогі.**

Штомесяц да нас звяртаюцца ў сярэднім да 40 чалавек. Фактычна ў дапамозе мы яшчэ нікому не адмовілі.

Мы запрашаем усіх вас да супрацоўніцтва. Наша грамадская арганізацыя фінансуецца за кошт спонсараў і дабрачынных ахвяраванняў, таму мы спадзяемся на вашу падтрымку. Наш разліковы рахунак №3015005900011 у аддзяленні ААТ «Белпрамбудбанк» г. Маладзечна, код банка 346, прызначэнне плацяжу: дабрачынная фінансавая дапамога, від аперацыі 01. Дабрачынныя ахвяраванні таксама можна ўнесці наяўнымі ў разліковай групе банка.

**З павагай старшыня Маладзечанскага аддзялення Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Беларускі Хельсінкскі Камітэт» Эдвард Баланчук.**

■ ТУРЫЗМ І АДПАЧЫНАК

# Як правільна купляць турпуцёўкі

**МАЛАДЗЕЧНА. У траўні мінулага года сям'я Манкусаў звярнулася па турыстычныя паслугі ў мясцовы філіял СП «Алатан-Тур». Набліжалася 20-годдзе іхняга шлюбу, таму, акрамя звычайнага адпачынку з дзецьмі 9 і 11 год, хацелася правесці юбілей у прыемнай абстаноўцы. «Мядовы месяц», дарэчы, Людміла і Віктар правялі якраз у Крыме. Але сям'ю, урэшце, ашукалі.**



Фота з архіва сям'і МАНКУСАЎ.

**Гэта і ёсць пансіянат «Сямёнаў». Хісткая, недабудаваная канструкцыя амаль без парэнчаў. Каб не пяты паверх, у Беларусі ў такіх хіба толькі скацінў трымалі б. Справа відаць будаўніка, які шчыруе на будынку.**

14 траўня «Алатан-Тур» праз украінскую пасрэдніцкую фірму «Юнона» забраніраваў чатыры турысцкія пуцёўкі на сямейны тур у пасёлак Берагавое. Яшчэ праз тыдзень шчаслівыя адпачывальнікі выкупілі іх. Наперадзе іх чакалі 12 бязвоблачных дзён у крымскім пансіянаце «Семеноў» (гэта аднайменны прадпрымальнік сціпла назваў яго сваім прозвішчам).

Згодна з умовамі дагавора і абвешчанай турагенцтвам вуснай (увага!) інфармацыяй, за $540 сям'і з двума дзецьмі гарантавалася пражыванне ў гэтым пансіянаце з 5 па 16 жніўня ў двух сумежных нумарах (кожны, у сваю чаргу, на два чалавекі). У пакоях мусіла быць па тэлевізары і халадзільніку. Санвузел і душ меркаваўся адзін. Дзецям дадаткова абяцалі бясплатныя фрукты і малако. Наогул жа, харчаванне мусіла быць трохразовае. Словам, поўны пансіён. Крыху сапсавала настрой тое, што адразу паабяцалі дзве дзіцячыя пуцёўкі (што мела ўвазе значныя скідкі), а затым выдзелілі толькі малодшаму. Хаця, згодна з заканадаўствам, нават і ў 12 год падлетак мае права на скідкі. А ў маладзечанскім філіяле «Алатана» на тым тыдні сказалі, што дзе-нідзе ў Крыме такія скідкі дзейнічаюць і ў дачыненні да 14-гадовых.

Яшчэ 3 жніўня прадстаўнік турагенцтва па тэлефоне ў чарговы раз заверыў Манкусаў, што нумары забраніраваныя. Аднак праз тры дні, калі сям'я прыехала на месца адпачынку, прадстаўніца адміністрацыі пансіяната адмовілася засяляць іх у забраніраваныя нумары. Іх прадалі ўжо іншай турфірме. Адпачывальнікі там жывуць ужо колькі дзён.

Прычым жанчына распавяла, што яшчэ за 2 тыдні да прыезду беларусаў яна папярэдзіла пра сітуацыю «Юнону», а тая – СП «Алатан-Тур».

Свабодных нумароў не было. Як і грошай, якія, напэўна, гасцінныя гаспадары мусілі вярнуць неадкладна.

Пасля спрэчак, угавораў і кампрамісаў сям'ю Манкусаў засялілі (часова, да высвятлення сітуацыі) у трохмесны нумар без выгод. Высвятленне доўжылася два дні.

За гэты час Манкусы не раз тэлефанавалі ў СП «Алатан-Тур» і ў маладзечанскі філіял, украінскаму пасрэдніку «Юноне». Беларусы былі згодныя і на самастойнае размяшчэнне, але грошай на гэта неставала. Усе размовы характарызаваліся тым, што «Алатан-Тур» накіроўваў іх да «Юноны», а тая грошы вяртаць адмаўлялася. Увогуле, ніякай канкрэтнай дапамогі сям'я ад свайго турагента так і не атрымала.

Урэшце, прадстаўніца адміністрацыі пансіяната прапанавала сям'і Манкусаў выслабаніць часова займаемы імі нумар. У адваротным выпадку прыгразіла высяленне з дапамогай праваахоўных органаў. Калі ў адказ беларусы папрасілі запрасіць за адным разам прадстаўнікоў мясцовай улады, то прадпрымальнік Сямёнаў заплаціў ім $240. Нейкіх тлумачэнняў ці хаця б прабачэнняў нашыя турысты не дачакаліся. Яны вымушаныя былі самастойна размяшчацца ў прыватным сектары.

Толькі ў апошні дзень прабывання ў Крыме $234 ім вярнуў прадстаўнік «Юноны». А без грошай, зразумела, пра паўнавартасны адпачынак гаворка не можа ісці. Прычым Людміла і Віктар перакананыя, што без іхняй заявы і адзнакі прадпрымальніка Сямёнава на ёй далейшы ход справа не мела б.

**НЯЦЯЖКА** падлічыць, што застаюцца яшчэ $66 – яны прыйшліся на долю «Алатан-тура». У Маладзечне Манкусам заявілі, што СП віны за сабою не адчувае. Маўляў, іхняя сям'я свядома адмовілася жыць у пансіянаце, бо ўбачыла, што ў прыватным сектары будзе танней. Таму і грошы ніякія вяртаць ім не будуць. Хаця што замінала, у такім выпадку, паехаць сям'і ў Крым «дзікунамі» адразу, а не дамаўляцца з «Алатан-Турам»?

Натуральным стала абурэнне падобнымі паводзінамі прадстаўнікоў турагенцтва. Але ні ў Маладзечне, ні ў Мінску ў кліентаў нават прабачэння не прасілі. Не дапамаглі нават звароты ў таварыства абароны правоў спажыўцоў.

«Алатан-Тур» прапанаваў сям'і Манкусаў звяртацца ў суд, і даслаў былым кліентам адказ, дзе сцвярджае, што халадзільнік, санвузел і тэлевізар у нумары ім і не абяцалі. Лагічна, бо на паперы, прыгадайце, гэта зафіксаванае не было.

Акрамя гэтага, турфірма сцвярджала, што не яна з'явілася прычынай згаданых непаразуменняў (атрымліваецца, парушэнні былі ўсё ж!). Сапраўды, у заканадаўстве ёсць такое: асоба, што нанесла шкоду, вызваляецца ад адказнасці, калі дакажа, што ўсё адбылося не па яе віне.

Хаця Закон «Аб турызме», «Часовыя правілы дзейнасці ў сферы турызму на тэрыторыі РБ» адназначна гавораць, што турагент адказны перад турыстам за дзеянні сваіх партнёраў. Гэта так званае спецыяльнае заканадаўства, якім турфірмы мусяць карыстацца ў першую чаргу. Аднак атрымалася так, што толькі адвакат **Іна Цярэшчанка** на судзе нагадала ім пра само існаванне гэтых заканадаўчых актаў.

**СУДОВЫ ПРАЦЭС** прайшоў у Маладзечне. Перад тым прадстаўнікі турфірмы настойліва раілі былым кліентам падаваць іск у Мінску. Маўляў, у Маладзечне ў вас яго нават не возьмуць для разгляду. Што таксама міжволі наводзіць на роздум.

У працэсе прадстаўнікі «Алатан-Тура» іск сям'і не прызналі. Тлумачылі гэта тым, што іхняе прадпрыемства ўсе ўмовы дагавора выканала: маўляў, кліентам былі прадастаўленыя нумары, але іх яны не задаволілі, таму і ўзнік канфлікт. Характэрна, што рашэнне суда аспрэчваць у далейшым не сталі. А дырэктар маладзечанскага філіяла СП, наогул, толькі пасля кансультацый са сваім мінскім кіраўніцтвам пачаў гаварыць пра неправамоцнасць паводзінаў істцоў.

Суд спагнаў з СП «Алатан-Тур» на карысць Людмілы і Віктара Манкусаў у лік матэрыяльнай кампенсацыі маральнага ўрону па 75000 рублёў кожнаму, а таксама судовыя выдаткі ў суме 90800 рублёў. Акрамя таго, адказчыкі заплацілі дзяржпошліну ў даход дзяржавы ў суме 28500 рублёў.

– Судовая практыка амаль не ведае спраў паісках за неналежнае выкананне турфірмамі абавязкаў перад сваімі кліентамі, – гаворыць адвакат пацярпелых Іна Цярэшчанка. – Акрамя таго, існуе рэкамендацыя Пленума Вярхоўнага Суда, каб сума за маральны ўрон не перавышала матэрыяльны.

Звяртае на сябе ўвагу яшчэ адзін факт. Манкусы заплацілі за пуцёўку ў СП «Алатан-Тур» $540. Мінчане сабе пакінулі $66, украінская «Юнона» ўзяла $234, астатнія грошы засталіся пансіянату «Семенов». Калі ўлічыць, што першыя дзве фірмы – пасрэднікі, то немінуча паўстаюць пытанні. Ці не зашмат яны бяруць? І чаму такі нераўнамерны расклад грошай паміж «Алатан-Турам» і «Юнонай»? Манкусы плацілі за пуцёўкі наяўнымі доларамі, а матэрыяльную кампенсацыю за маральны ўрон ім накіравалі... на безнаяўны рахунак гарвыканкома.

Адказу на гэтыя пытанні я не атрымаў нідзе. Толькі здагадкі і меркаванні. З «Юнонай» і прадпрымальнікам Сямёнавым «Алатан-Тур», магчыма, і цяпер супрацоўнічае. А тыя злашчасныя пуцёўкі ў пансіянат «Семенов» перакупілі нейкія масквічы. На месяц пазней за беларусаў і за $800, а не $540.

Прычым работніца пансіяната заўважыла, што фірма «Алатан-Тур» тройчы прадала пуцёўкі на іхнія пакоі. Пра што, дарэчы, яна папярэджвала «Юнону». Апошняя гэтага таксама не адмаўляе.

**Людміла і Віктар Манкусы:**

*– Мы хочам застрахаваць іншых. У пуцёўцы павінна быць запісана абсалютна ўсё і абсалютна канкрэтна. Калі вам абяцаюць тэлевізар у кожным пакоі, то няхай і напішуць. Калі гавораць, што халадзільнік будзе, то таксама занатуйце. Бо, прыкладам, юрыст СП «Алатан-Тур» пазней аспрэчыў нават форму той заявы-распіскі (маўляў, гэта мусіў быць пратакол), па якой мы атрымалі $240 ад «Юноны». Што гаварыць пра вусныя абяцанкі?*

*Дарэчы, у «Алатан-Туры» перад паездкай нам паказвалі маляўнічыя праспекты з апісаннем і здымкамі будучага месца адпачынку. На судзе фігуравалі іншыя, дзе нічога падобнага не было. Таму запасіцеся на ўсялякі выпадак і такімі праспектамі.*

*Падрыхтуйцеся і да нашага сервісу. У «Алатан-Туры» нам заявілі, што без рашэння суда нават прабачэння прасіць не будуць. Такое вось стаўленне да кліента. Нельга кідаць людзей, як нас, адных, у чужой краіне. З любой сітуацыі варта выходзіць з гонарам.*

**Ігар ЦЯНЬ-ШАНЬСКІ.**

■ КАЛОНКА З ПРАЦЯГАМ

## Фантастычнае падарожжа з Рыбаком Гатаўскім

**Працяг.**

Пакуль слухаў дзядуліна жартоўнае апавяданне, не заўважыў, як берагам датупалі да пляжа санаторыя "Белая Русь". Сама здраўніца за паўкіламетра ад берага, сярод высокіх соснаў. Верасень прынес прахалоду, а таму рэдка хто асмельваўся на хвіліну–другую залезці ў ваду, поўна было такіх, хто лавіў промні сонца, каб хоць крыху загарэць. Бачым, як буйной камплекцыі жанчына чытае ліст і пры гэтым хусцінкай выцірае вочы.

– Можа, адкажаш, чаму жанчыны плачуць? – звяртаецца да мяне Рыбак Гатаўскі. – Пара ведаць.

– Раскажыце, буду ведаць і іншым расказваць.

– Жанчыны плачуць у выпадку няшчасця і чужога шчасця. У выпадку чужога няшчасця ад радасці, што няшчасце яе не напаткала. У выпадку чужога шчасця – ад зайздрасці. Але не было выпадку, каб жанчына аплаквала чужы брыдкі выгляд. Тады яна радуецца сваёй прыгажосці. Галоўная цікавасць жанчыны – іншая жанчына. Як яна выглядае? Якога мужчыну заарканіла? Як ён яе весяліць?

Ці сам дзядуля дадумаўся да ўсяго гэтага, ці пачуў ад каго іншага? Не стаў пытацца.

Адзаду застаўся пляж санаторыя "Белая Русь", паказаўся новы – Дома адпачынку "Нарач". Летам тут бывае народу, што цюленяў на лежбішчы. І цяпер не перавяліся жадаючыя падыхаць чыстым паветрам, памарыць пад шэпт нарачанскіх хваляў. Працуе павільён "Ружовы фламінга". Можна выпіць не толькі кавы, але і халодных ды моцных напіткаў.

Мой спадарожнік не дае спакою сваімі пытаннямі:

– Бачыш, як вунь той адкормлены мужчына зыркае ва ўсе бакі. Як думаеш, з якой нагоды?

– Мо, шукае, дзе яго сябра па пакоі.

– Не і не. Ён хоча адшукаць адзінокую жанчыну. А чаму? Таму што, калі мужчына акружыць увагай адзінокую жанчыну, яму даруецца сем грахоў.

– Дзядуля, калі быў маладзейшы і ездзіў на курорты, дык без грахоў вяртаўся?

– Гэта мая таямніца. Хаця магу прызнацца. Ат, другім разам. Слухай лепш вось такую гісторыю. У доме адпачынку "Нарач" група пісьменнікаў абедала за адным сталом. Гутарку вялі па–беларуску. Усё, што ставіла афіцыянтка, з'ядалі, не рабілі ніякіх заўваг, не патрабавалі замены страў. За суседнім сталом "пасялілася" разборлівая кампанія. Ім усё не так, не гэтак, прасілі памяняць катлеты на шніцэль, перш за іншых абслугоўваць. Цярпела, цярпела афіцыянтка і выпаліла: "Вунь сядзяць вясковыя дзядзькі, усё з'ядаюць, не дакучаюць, гавораць не па–гарадскім". Потым жанчыне хтосьці сказаў, што сталуюцца пісьменнікі. Яна пачала з ветлівасцю ставіцца да неперабарлівых адпачывальнікаў.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**

**Працяг будзе.**



# Паварушы мазгамі, №55

Добры дзень!

Рашэнне задання з мінулага выпуску нашай рубрыкі не было складаным. Прыкмячаем, што ў кожным радзе і ў кожным слупку стаіць па два цотныя і два няцотныя лікі. Адкуль выцякае, што невядомы лік няцотны. У кожным радзе і кожным слупку ёсць па адным квадраце ліку, за выключэннем ніжняга рада і правага слупка. Такім чынам, на месца пытальніка трэба паставіць лік 25.

Знайшоў правільны адказ толькі **Саша Кендыш** з Маладзечна, якога мы запрашаем за дыпломам і прызам у рэдакцыю.

## Экзамены

Члены экзаменацыйнай камісіі прастаўлялі адзнакі (2,3,4,5), карыстаючыся індывідуальнай сімволікай. Выніковая адзнака выстаўлялася студэнту на падставе большасці адзнак, прастаўленых членамі камісіі. Разбярыцеся ў табліцы і расшыфруйце значэнні сімвалаў, выкарыстаныя кожным членам камісіі.

Сярод тых, хто правільна адкажа, як заўсёды, будзе разыграны прыз.

**Напішы адказы на паштоўцы** і дашлі на адрас рэдакцыі. Падпішыся на паштоўцы. **Адказы прымаюцца да серады ўключна.**



**Якім Пярэчка.**

| Члены экзаменацыйнай камісіі | Студэнты | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Івашкевіч | Путырскі | Саковіч | Казлоўскі | Арловіч | Варакса | Шыманскі | Папоў |
| Галубовіч | • | • | • | • | • | • | • | • |
| Сідаровіч | I | – | I | – | I | – | – | I |
| Пярэчка | — | \| | / | \ | — | / | / | \ |
| Валынец | — | — | : | × | + | : | : | × |
| Шабан | 8 | ○ | ⊙ | 8 | ○ | ⊙ | 8 | ∞ |
| Агульная адзнака | **5** | **4** | **3** | **2** | **5** | **4** | **3** | **2** |

■ **КРЫЖАВАНКА** **Ірына САХАЦКАЯ.**




1. Вялікі пакой для прыёму гасцей. 2. Група фурманак. 3. Шырокія палосы паперы з узорамі для абклейвання сцен. 4. Жанчына з інтэлігенцкіх колаў. 5. Каляндарны час якой-небудзь падзеі. 6. Час, перыяд, тэрмін. 7. Кавалак тканіны, якім залапленая дзірка ў адзенні. 8. Кароткае апавяданне са смешным зместам. 9. Месца ў глядзельнай зале. 10. Дакладна адмераная колькасць чаго-небудзь. 11. Бясхвостая земнаводная жывёліна з барадаўчатай скурай. 12. Прабацька роду чалавечага. 13. Жанр украінскай гістарычнай народнай песні. 14. У мусульман: чалавек іншай веры. 15. Адлегласць ад паверхні да дна. 16. Плоскія драўляныя палазкі для перамяшчэння па снезе. 17. Пачуццё спагады, выкліканае чыімсьці няшчасцем, пакутай. 18. Народны сход. 19. Хвароба хлебных злакаў у выглядзе чорнага ліпкага налёту. 20. Жанчына ў адносінах да сваіх дзяцей. 21. Тое, што створана ўяўленнем, фантазіяй. 22. Маладая авечка, якая не ягнілася. 23. Воз на Каўказе. 24. Дарога, абсаджаная з абодвух бакоў дрэвамі, кустамі.

**Адказ на крыжаванку, змешчаную ў №20**

**Па гарызанталях:** 1. Хам. 3. Мім. 5. Амур. 7. Амар. 10. Домра. 14. Проза. 17. Мацунак. 19. Шпора. 20. Аш. 21. Тыл. 22. Ток. 24. Ікс. 25. Цэп. 27. "Муму". 29. Раён. 31. Імам. 32. Рынг. 33. Ік. 35. Соя. 36. Аск. 39. Тар. 41. Тэсла. 43. Ар. 44. Лак. 46. Гурт. 47. Балаболка. 51. "Аз". 52. Мора. 53. Кірпа. 54. Парк. 55. Рыс.

**Па вертыкалях:** 1. Хром. 2. Марцыпан. 3. "Марш". 4. Мазок. 5. Ат. 6. Уд. 8. Марс. 9. Ро. 11. Матэрыял. 12. Аул. 13. Мат. 15. Опіум. 16. Па. 18. Комік. 23. Кум. 26. Ан. 28. Маг. 30. Ёга. 32. Рост. 34. Калапс. 35. Сэр. 37. Сала. 38. Ядок. 40. Ра. 41. Ту. 42. Аборт. 45. Ка. 48. Арк. 49. Лір. 50. Крыт. 52. Ма.

## Гараскоп 28 мая – 3 червеня



**Авен**
(21.03–20.04)

Працягваецца вельмі прадуктыўны перыяд, калі вы можаце без перашкод прасоўвацца наперад. Звярніце ўвагу на дзень 1 чэрвеня, калі могуць адбыцца дзіўныя падзеі. Раім іх выкарыстаць медытацыйна, таму што сапраўднае разуменне таго, што адбываецца (а не павярховы погляд на яго!) можа паўплываць на ваш далейшы лёс.



**Цялец**
(21.04–21.05)

Падзеі, пачуцці і эмоцыі апошніх тыдняў рухаюцца да сваёй кульмінацыі. 31 мая – 2 чэрвеня вы атрымаеце практычна ўсё. Аднак – увага! Вы занадта вялікі матэрыяліст, і калі гэта "усё" не будзе мець фінансавага "паху" або адкрыццяў заказаных, вы можаце быць расчараваныя. Асаблівай увагі заслугоўвае 1-га чэрвеня.



**Блізняты**
(22.05–21.06)

Вы глядзелі фільм "Цягнік-уцякач"? У такім выпадку, лёгка можаце зразумець, што з вамі адбываецца. Але хуткасць, з якой вы рухаецеся, можа прывесці да крытычных наступстваў. Час у запасе ёсць, але паспрабуйце, пакуль вы абароненыя планетамі ад "катастроф", зменшыць хуткасць. Асабліва ў сферы зносінаў.



**Рак**
(22.06–23.07)

Перыяд адзначаны паступленнем інфармацыі, паездкамі і сустрэчамі, многія з якіх могуць закласці фундамент будучага супрацоўніцтва. Асабліва ўважліва прыслухоўвайцеся і прыглядайцеся да замежных кантактаў: вы можаце выступіць у ролі "тавару", які захочуць ці... не захочуць купіць. Добры эмацыянальны тонус.



**Леў**
(24.07–23.08)

Калі вы заблыталіся ў асабістай сітуацыі ці справы на вытворчасці павяргаюць вас у шок сваёй непрадказальнасцю, то вы лёгка зможаце разабрацца ва ўсім каля 1 чэрвеня, калі лёс паднясе вам шэраг знакавых сітуацый. Галоўная ваша задача – правільна зразумець іх сэнс і не імкнуцца ва ўсім знаходзіць нечыя "падкопы". Трымайцеся далей ад вады.



**Дзева**
(24.08–23.09)

Звярніце ўвагу на свой стомлены арганізм. Калі можаце, вазьміце адпачынак, справы не пацерпяць, а ваш эмацыянальны фон пазбавіцца шэрых адценняў. Жанчыны-Дзевы, наогул, павінны запатрабаваць да сябе максімум увагі, інакш не вытрымаюць нервы.



**Шалі**
(24.09–23.10)

28–31-га мая – перыяд спакою, час падарункаў і прызнання. У многіх Шаляў магчымыя глабальныя перамены ў асабістым жыцці. 1 чэрвеня – знакавыя сны, атрыманне звестак, нечаканыя, але дарагія госці. Зразумела, такі стан спраў і душы не можа (і не павінна!) працягвацца доўга. Скарыстайце яго цалкам і не забудзьцеся падзяліцца.



**Скарпіён**
(24.10–22.11)

Хутчэй за ўсё, што ніякія падзеі, людзі і звесткі вас не закрануць нават мімаходам. Можа, гэта і добра, таму што слабыя нервы і унутранае незадаволенне неабходна пераадольваць у адзіноце. Адзінае, што можа быць нечаканым – атрыманне значнай сумы з крыніцы, амаль містычнай.



**Стралец**
(23.11–21.12)

Намаганні, якія вы прыкладалі ў папярэдні перыяд, пачнуць прыносіць дзіўныя, калі не сказаць, экзатычныя, плады. Ужо да 1 чэрвеня вы можаце адчуць сябе пераможцам, убачыць вынік сваіх намаганняў. Дарэчы, многія з вас ад вялікага нервовага напружання могуць згубіць імунітэт і захварэць літаральна ад укусу камара. Паберажыце сябе.



**Казярог**
(22.12–20.01)

Шмат з таго, што вас праследавала на працягу многіх месяцаў, стане абсалютна ясным каля 1 чэрвеня. А непасрэдна ў гэты дзень чакайце прыемных сюрпрызаў і дзіўных звестак, якія толькі падмацуюць вашыя "адкрыцці".



**Вадалей**
(21.01–19.02)

Вам неабходна разабрацца з сапраўднай роляй новых задум, ідэй і перамен, якія вы намецілі ў сваім жыцці. Ці такія ўжо яны бяскрыўдныя і перспектыўныя, як вам здаецца? Парайцеся з прадстаўнікамі знакаў Цяльца і Казярога: яны прагматыкі. Ужо 1 чэрвеня будуць вырашаныя складаныя задачы і тэарэмы.



**Рыбы**
(20.02–20.03)

Калі вы ўмееце жыць не толькі для сябе, то вам будзе лёгка і нават прыемна змірыцца з тымі законнымі патрабаваннямі партнёра, якія ён да вас прад'яўляе. У іншым выпадку падумайце, ці варта працягваць стасункі, якія супярэчаць вашым уяўленням пра шчасце. У бізнесе – новы, небяспечны партнёр.



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ігар ВЕЙС, фірма «ФАВАРЫТ».
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **8640 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. **№21 (318) 25.05.2001.** Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. №. Падпісана ў друк у 13.00 24.05.2001

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**
**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 53935, 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у аддзяленні Белзнешэканамбанка ў Маладзечне, код 211, атрымальнік рэдакцыя «РГ»